*ВАЮЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! — К. Каліноўскі*

ISSN 5172

**ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ!**



# ЗВАЖАЙ

**Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Быўшых Беларускіх Вайскоўцаў**

**ZVAZAJ' Veterans quarterly, published by Liaison Committee of Byelorussian War Veterans.**

**Canada Post: 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont., M4K 1C2**

**U.S. Post: Assn of Byelorussian American Veterans, 9 River Rd., Highland Park, N.J. 08904, U. S.**

Год 15 | Верасень, 1989 | Нр. 3 (55)

## ЯК ВАРВАРЫ РУЙНАВАЛІ ПОЛАЦАК

*Менскі часапіс "Маладосьць", нр. 3, за сакавік, зьмяшчае абшырны артыкул "Зруйнаваная памяць муроў", у якім археолёг Сяргей Тарасаў апісвае як акупацыйны маскоўскі рэжым вось ужо на працягу колькіх дзясяткаў гадоў руйнаваў старажытную сталіцу першай беларускай дзяржавы "слаўны град" Полацак. Да тэкстаў аўтаравага артыкулу, бадай, зусім непатрэбныя камэнтары.*

"Час умее паміраць. Няўмольна, непазьбежна. Па ім застаецца ўспамін. Памірае чалавек — застаюцца рэчы, у якіх увасоблены ягоны дух. Зьнікаюць рэчы, зьнікае і дух...

Ход гісторыі і лёс чалавека... Гэтыя два непарыўна зьвязаныя паняцьці праз усе варункі часу крочаць побач Чалавек робіць гісторыю, гістарычныя законы падпарадкоўваюць сабе чалавека. Бывае, яны супярэчаць адзін аднаму. Тады адбываюцца драмы — драмы адзінкавых асобаў або цэлых народаў. І праз многія гады цяжка бывае шукаць правага й вінаватага, адрозьніць аб'ектыўнае ад валюнтарысцкага, недасьветчаную неадукаванасьць ад злачыннага намеру.

Жыцьцё чалавека ў прасторы стагодзьдзяў — бліскавіца, якая згасае так імгненна, што не пакідае па сабе йсьледу. Але часам застаюцца справы. Адны — падобныя зьдзяйсьненьню Гэракла, іншыя — учынку Гэрастрата. І мусіць насіць іх матухна-зямля, пакуль ня згасьне над ёю сонца, а людзі — помніць, пакуль будуць хадзіць пад гэтым сонцам.

Сёньня зь нябыту ў наш абнадзееены век вяртаюцца постаці закатаваных, зьняважаных і ашальмаваных людзей. Мы адчуваем свой абавязак перад іх памяцьцю, а разам з тым абавязак перад памяцьцю Бацькаўшчыны, кожнага яе куточка, што моўчкі зьнікалі, ня ведаючы нават сутнасьці судовай "справы".

Той, хто прыяжджае ў Полацак, адразу заўважае прыгожыя маляўнічыя плякаты, якія абвяшчаюць аб старажытнасьці гэтага гораду: 1125 год! Нявопытны падарожнік, убачыўшы такую лічбу, пачынае прыгадваць храмы Смаленску, сьцены Пскова, Сафійскія саборы Ноўгарада й Кіева. Уяўляюцца магутныя камяніцы з высокімі вежамі, залатыя макаўкі раськіданых па навакольлі манастыроў, багатыя экспазыцыйныя залі шматлікіх музэяў. Моцна абнадзейваюць бачныя здалёку званіцы Сафійскага сабору, купал Богаяўленскае царквы 18-га стагодзьдзя. А што далей?

А далей наш цікаўны падарожнік трапляе ў звычайны невялікі гарадок, скрозь забудаваны сталінска-хрушчоўскімі дамамі, наборам ледзь ня тыповых помнікаў, бюстаў і стэл. Ёсьць і прыметы дня сёньняшняга: шэрыя блочныя хмарачосы з выразнай і тыповай адсутнасьцю дэкору, коміны фабрык і заводаў, неад'емны двухпавярховы унівэрмаг і г. д.

"І гэта ўсё?" — зьдзівіцца ён. Не, ня ўсё. Ёсьць магчымасьць агледзець рэшткі велічнага некалі Сафійскага сабору 11-га ст. і яго больш позьнюю перабудову ў 18-м ст., згаданы ўжо Богаяўленскі сабор 18-га ст., дзе цяпер разьмешчана гарадзкая карцінная галерэя, будынак Брацкай школы, у якой выкладаў першы настаўнік Пятра І Сімяон Полацкі. Можна ўбачыць будынак былой лютэранскай кірхі, у якой пасьля зацягнутага рамонту нарэшце адкрыўся адзіны ў горадзе краязнаўчы музэй. А яшчэ — домік Пятра І, дзе быццам-бы спыняўся сам цар падчас Паўночнае вайны. Чырвоны мост — своеасаблівы дзеючы помнік вызваленьню Полацка ў 1812 г. І некалькі помнікаў У.І.Леніну. Адзін зь іх, гіпсавы, пахварбаваны бруднай, чырвона-карычневай хварбаю... Ёсьць яшчэ помнік камсамольцам, Францішку Скарыну, помнік перамозе... Калі пашанцуе, дык, запытаўшыся мясцовых жыхароў, можна знайсьці й былы Спаса-Праабражэнскі манастыр, які быў заснаваны ў 12-м ст. Ефрасіньняй Полацкай. Але гэты аб'ект не заўсёды ўваходзіць у маршруты экскурсіяў, а таму аб ім расказваюць толькі тады, калі турыстаў правозяць у бок чарговай "адметнай" навабудоўлі або "гіганта пяцігодкі".

Мясцовыя экскурсаводы могуць расказаць і пра іншыя выдатныя мясьціны, але часьцей за ўсё — ня выходзячы з аўтобусу, бо глядзець, уласна кажучы, няма на што. Некалькі гадоў мне падоўгу даводзілася працаваць у гістарычным цэнтры гораду, ды я ніколі ня бачыў пеших экскурсіяў. Між тым у аўтобусах з вуснаў экскурсаводаў проста-такі дуплетамі зьляталі словы: "там быў", "там знаходзіўся", "некалі стаяў". І толькі вопытны турыст з багатай фантазіяй мог уявіць як "быў", як "знаходзіўся", як "стаяў". І гэтых "быў" ледзь не ўтрая больш за сёньняшнія "ёсьць".

Скончыў сваё духоўнае існаваньне й Мікалаеўскі сабор. "На жаданьне жыхароў гораду" яго зачынілі, званы зьнялі й адправілі на пераплаўку. Шматлікія пахаваньні, якія знаходзіліся ў скляпеньнях сабору, перашкаджалі плянам далейшага яго выкарыстаньня.

Таму косткі нябожчыкаў "сабралі" ў адну крыпту пад уваходам, а вызваленыя падвалы скарысталі ў якасьці складаў для гародніны. Так у сярэдзіне 30-х гадоў нябожчыкаў Мікалаеўскага сабору пасялілі ў адзін "інтэрнат".

Дзесяцігодзьдзем раней спыніў сваё існаваньне як "культавая забудова" Сафійскі сабор. У 1921 г. зь яго былі ріквізаваныя ўсе каштоўнасьці з золата й серабра ў дапамогу галадаючым Паволжа... Спроба зрабіць у саборы музэй (1923-1924 гг.) ня мела посьпеху. Музэй перавялі ў былую лютэранскую кірху, якая разоў у дзесяць была меншая за сабор. А з трэцяга на Кіеўскай Русі (*адкуль тут у Полацку ўзялася* **Кіеўская Русь?** — *К.А.*) сабору Прамудрасьці Божай зрабілі збожжасховішча. У "пераломныя" 20-я гады была зачыненая Богаяўленская царква. Яе бібліятэку й некаторыя рэчы перадалі ў краязнаўчы музэй, акрамя тых каштоўнасьцяў, якія таксама пайшлі на паратунак галадаючым. У самой царкве зрабілі спартовую залю.

Але й на гэтым разбуральная хваля ня спынілася. Тады-ж пастановай мясцовага Савету быў узарваны й разбураны комплекс Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра XII ст. Маўляў, патрэбная цэгла для новабудоўлі. Цэглу з больш позьніх прыбудоў (18-19 стст.) разабралі, у той час як плінфу — тонкую цэглу 12 ст. — проста зьнішчылі, бо яна "ня мела будаўнічай вартасьці". Разам з манастырскімі храмамі амаль цалкам загінулі старажытныя фрэскі, а таксама **пахавальня полацкіх князёў у сутарэньнях Пятніцкай царквы** [падкрэсьлена намі — К.А).

Не абмінулі віхуры тых гадоў і Спаскага манастыра, заснаванага славутай Ефрасіньняй Полацкай у сярэдзіне XII ст. 13 мая 1922 **ускрылі мошчы самой Ефрасіньні і адправілі іх у Маскву на выстаўку, а потым — у Віцебскі краязнаўчы музэй. Годам раней з манастыра былі рэквізаваныя ўсе каштоўнасьці. Сярод іх: крыж Лазара Богшы XII ст., рака, у якой ляжалі мошчы Ефрасіньні, вагою ў 40 пудоў серабра. У 1928 г. манастыр наагул зачынілі. Манашкі вымушаныя былі пасяліцца на лядах каля станцыі Гараны пад Полацкам.**

Узьнікае пытаньне: што за навала прайшлася па нашых помніках у 20-30-я гады, разбуральную сілу якой можна параўнаць хіба што з жудасным цунамі? Яна прайшлася па памяці нашых дзядоў і бацькоў. А што рабілі мы, іх дзеці? Завучвалі са школьных і інстытуцкіх падручнікаў лічбы дасягненьняў і рапартаў, перавыкананых плянаў, ганарыліся "выдатнымі посьпехамі" ў галіне мастацтва й культуры. Так, культуры, якое нас старанна пазбаўлялі. Нас прымушалі адлічваць крокі гісторыі краіны толькі ад 1917 г., ад першых пяцігодак, па вехах грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, завучваць лічбы зьездаў і пленумаў, дасягненьняў жывёлагадоўлі, якіх не існавала, памнажаючы іх на колькасьць яек на душу насельніцтва. І як-жа яно ўсё добра ўкладвалася ў галодную, але "пэрспэктыўную" тэорыю шчасьлівай будучыні! Ні адзін выкладчык ня змог нам дасьціпна растлумачыць, чаму тысячагадовая гісторыя нашага народу так лёгка ўкладвалася ў чацьвёртай частцы падручніка, а апошнія 70 год "пачэсна" занялі рэшту яе плошчы? Белыя плямы 30-х і канца 40-х гадоў нават не краналіся, а ў дарэвалюцыйную гісторыю трывала ўбілі асінавы кол, літасьціва пакінуўшы ў якасьці патрыятычных прыкладаў барацьбу з татара-манголамі, крыжакамі, паўстаньні супроць царскага самаўладзьдзя і яшчэ тое-сёе.

Рэлігія, як было абвешчана, ёсьць "опіюм для народу", а гэта значыць — далоў званы, фрэскі, абразы ды й самі цэрквы! Імёны правадыроў павінны зіхацець на карце краіны, а таму — далоў Марыупаль, Самару, Ніжні Ноўгарад, Набярэжныя Чаўны, Іжэўск. Некаму здаліся немілагучнымі назвы: Дрыса, Прапошаск, Горадня, Менск — прэч іх! Няхай будуць Верхнядзьвінск, Слаўгарад, Гродна, Мінск. І ўсё гэта рабілася ад імя народу, бо, маўляў, гісторыю робяць масы, і толькі часам — асобы. Так, але асобы — не заўсёды людзі. Бывае, нараджаюцца й пачвары.

"Асоб" з кожным годам нараджалася ўсё больш і больш. На жаль, яны й дагэтуль плодзяцца. Калі пойдзе так і далей, то хутка мы будзем жыць не ў гарадох і мястэчках, і нават ня ў вёсках, а сярод знакамітых асоб, назваў газэт і часопісаў, розных шыльдаў "яблынек" і "вішанек". Шмат было пакладзена намаганьняў, каб пазбавіць нас уласнай гісторыі, яе карэньня ў зямлі і ў душах. Партыйныя дзеячы тыпу В.Г.Кнорына былі ня першыя, хто адмаўляў Беларусам у нацыянальнай самастойнасьці, гісторыі і дзяржаўнасьці. Кнорыны ведалі, што неабходна рабіць, каб дасягнуць сваёй мэты.

Да гэтага часу ў друку, у выступленьнях некаторых псэўдазмагароў за нашы ідэалы чуеш: "Па нашй зямлі ўсе стагодзьдзі гуляла вайна. Колькі зьнішчыла толькі апошняя!" Так, зьнішчыла. З гэтым нельга не пагадзіцца. Але давайце будзем дакладнымі: чаго, колькі і як?!

Вернемся ў Полацак. 1918 год, вайна зь белапалякамі. Горад захоплены па левы бераг Дзьвіны і абстрэльваецца з гармат і кулямётаў ажно 7 месяцаў. У той час адзінай дзеючай праваслаўнай царквой заставаўся Богаяўленскі сабор. Ён апынуўся на перадавой лініі абароны. Але служба тым ня менш ня спынялася. Веруючых склікалі званы. У час набажэнства яго абстрэл спыняўся. Па самім саборы, зразумела, не стралялі.

У той-жа пакутны год Полацак пазьней захапілі кайзэраўскія войскі. Яны не разбураюць архітэктурных помнікаў, а карыстаюцца імі. Ад Сафійскага сабору аж да Стралецкай вуліцы была пракладзеная драўляная маставая. Але пасьля вызваленьня Полацку Сафія была зачыненая з 1921 г., каштоўнасьці рэквізаваныя.

1941 — 1944 гг. Полацак акупаваны фашысцкімі войскамі. Адчыняецца Сафійскі сабор, Мікалаеўскі, Пакроўская царква, аднаўляецца Спаскі манастыр, Богаяўленская царква. Некаторыя зь іх рамантуюцца. З дазволу і з дапамогаю акупацыйных уладаў вяртаюцца зь Віцебска мошчы Ефрасіньні Полацкай. З гэтай нагоды ў дзень прыбыцьця цягніка з мошчамі была нават адмененая камэнданцкая гадзіна. Па дарозе мошчы суправаджаў прадстаўнік штандарткамэндантуры капітан Фукс. Была арганізаваная нават Царкоўная ўправа ў Полацку. (*Пра зварот мошчаў Сьвятой Ефрасіньні, Патронкі Беларусі ў Полацак піша й Юрка Віцьбіч у сваёй кнізе "Мы дойдем", "О чем умолчал протоиерей Войтович", выд. Фундацыі П. Крэчэўскага, Ню Ёрк, 1975 г. Пытаньне*: *а дзе цяпер знаходзяцца мошчы Сьвятой Ефрасіньні?* — К.А.)

Панесьлі ў вайну страты й гістарычныя грамадзянскія забудовы Полацку. Цяпер, вядома, цяжка сказаць, хто разбурыў болей, бо горад бамбілі й абстрэльвалі як у 1941 г., так і ў 1944 г. Вехай для гэтых абстрэлаў і бамбёжак часьцей за ўсё былі вежы Сафійскага сабору.

І тым ня менш мясцовыя жыхары добра памятаюць масавы налёт савецкай авіяцыі 28 мая 1944 г. за некалькі дзён да вызваленьня гораду. У выніку налёту амаль цалкам быў зьнішчаны гістарычны цэнтр Полацку, бо менавіта ту былі камэндантура й штаб нямецкіх войскаў. Хочацца верыць, што ў гэтым была ваенная неабходнасьць, і радавацца за братнюю Прагу, на чые архітэктурныя помнікі пры вызваленьні савецкімі войскамі ня ўпала ніводная бомба.

Кажуць, на вайне як на вайне. І яно сапраўды так. Ды толькі пасьля вайны мы зноў пайшлі па пратаптанай дарозе: цягнікі паранейшаму перавозілі зьняволеных у Сібір, толькі на гэты раз — адразу зь Нямеччыны, а мы працягвалі зносіць помнікі архітэктуры: і тыя, што добра захаваліся, і тыя, што былі пашкоджаныя. У Полацку зьніклі цэлыя вуліцы: Александраўская, Азараўская, амаль цалкам Спаская. На аднаўленьне помнікаў сродкаў не знайшлося. Затое знайшлі іх для ўзьвядзеньня ў псэўдаклясычным стылі будынку НКУС (НКВД — К.А.) (сучасны Полацкі гарвыканком) і *аднаўленьне старых астрогаў*.

Наступная разбуральная хваля ў Полацку прайшла ў 50-я гады. Зноў былі зачыненыя ўсе цэрквы. Апошнім у 1954 г. спыніў сваё існаваньне Спаскі жаночы манастыр. Манашак вывозілі ў Жыровічы. Частка зь іх адмовілася й засталася ў Полацку, частка перабралася ў Віцебск. У гэтыя гады былі зьнішчаныя Стараверчаскі храм на гандлёвай плошчы па Плігаўскай вуліцы (цяпер вуліца Ф.Скарыны), падмуркі Барысаглебскага храму Бельчыцкага манастыра часоў Кіеўскай Русі, касьцёл Бэрнардынскага манастыра 18 ст. (падмуркі-пахавальні засыпаны будаўнічым друзам), Мікалаеўскі сабор і частка кадэцкага корпусу 17 ст., гаспадарчыя забудовы ўздоўж Замкавага праезд. Апошнія ў 70-я гады зьнесеныя брацкія забудовы Дамініканскага манастыра. А ў помніках, якія захаваліся, былі разьмешчаныя дзяржаўныя ўстановы. У Сафійскім саборы — база кнігагандлю й Дзяржархіў, у Богаяўленскім саборы — тэкстыльная база, апотым прамтаварная база Гархарчпрамгандлю, у Крыжаўзьдзьвіжанскім храме Спаскага манастыра — збожжасховішча, а пасьля —хлявы дл жыхароў камунальных дамоў. І толькі ў лютэранскай кірсе — краязнаўчы музэй.

Ці лёгка зносіліся помнікі? Не. Гэты працэс быў поўны супярэчнасьцяў. І ня столькі з мэркантыльных інтарэсаў, колькі з матар'яльных. Яскравы гэтага прыклад — лёс Мікалаеўскага сабору. Адразу пасьля вайны ў ім і ў кадэцкім корпусе разьмясьціліся ўсе полацкія дзяржаўныя ўстановы, былі адкрытыя мэблёвы, харчовы й прамтаварныя крамы. Пасяліліся гараджане з разбураных дамоў. Фармальна кадэцкі корпус належаў шпіталю, але апошні займаў толькі палову будынку. Доўгі час полацкія ўлады дамагаліся перадачы вольнай часткі, якая прылягала да Мікалаеўскага сабору, для гарадзкіх установаў. Нарэшце аддалі пустое крыло й нават пачалі ў ім рамонт. Але тут высьветлілася, што ніхто: ні бальніца, ні завод "Шкловалакно", ні Дом піянераў не жадае яго браць. І гарвыканком знайшоў простае рашэньне: будынак зьнесьці. У 1964 г. "сваю" палову — сабор і частку корпусу — гарсавет узарваў, што абышлося больш за 40 тысяч рублёў. Выдатныя помнікі архітэктуры перасталі існаваць , а на іх месцы ў 1978 г. быў узьведзены плоскі дзевяціпавярховік, які атрымаў у палачанаў назву "дом з вушамі".

*************************************************



# МАТАР'ЯЛЫ ЗЬ ГІСТОРЫІ ЎЗБРОЕНЫХ СІЛАЎ БНР

Матар'ялы гэтыя мы знайшлі ў грамадзка-палітычным і літаратурным часапісе "Крывіч", які ў 1923-27 гадох выдавалі ў Коўне вядомыя беларускія дзеячы В.Ластоўскі і К.Душ-Душчэўскі. Яны былі зьмешчаныя ў нр. 2 "Крывіча" з 1923 г. п.заг. "Беларускія вайсковыя фармаваньні на б. Румынскім фронце". Аўтар матар'ялаў нехта С.К. — крыптанім, які фігуруе і ў іншых нумарох часапісу. У падзагалоўку сказана: "Матар'ялы да гісторыі беларускай вайсковасьці часоў вялікай Расійскай рэвалюцыі".

"Матар'ялы" складаюцца з 8 загадаў памочніка галоўнакамандуючага арміямі Румынскага фронту, ген. пяхоты Шчарбачова расейскім войскам гэтага фронту, кароткага камэнтара аўтара і тэкст ліста старшыні Народнага Сакратарыяту й Народнага Сакратара Вонкавых Справаў БНР Язэпа Варонкі й кіраўніка Справамі Народнага Сакратарыяту БНР Л. Зайца Беларускаму Камісару Румынскага Фронту П. Манцэвічу ў справе маёмасьці Беларускай Арміі, якая была перададзеная ў дэпазыт тагачаснаму румынскаму ўраду. "Матар'ялы" надрукаваныя ў беларускім перакладзе, які мы дазволілі сабе крышку ўдасканаліць, каб наблізіць яго да сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

### »Загад расейскім войскам румынскага фронту»

9 студзеня 1918 г. Нр. 1332

Гэтым апавяшчаю аб утварэньні Беларускай Вайсковай Камісіі для арганізацыі Беларускіх вайсковых злучэньняў на Румынскім фроньце. У склад гэтай Камісіі ўвайшлі:

1. Старшыня — ген.-маёр Пажарскі.
2. Сакратар — паручнік 117-га пяхотнага Яраслаўскага палка Ленчыоні.

Сябры: 3. Падпалк. 4-га марскога палка Чуніхін.

4. Штабс-капітан 481-га пяхотнага Мяшчэрскага палка Манцэвіч.
5. Штабс-ротмістр 11-га Ізюмскага гусарскага палка Пажарскі.
6. Паручнік 117-га пяхотнага Яраслаўскага палка Гаранскі.
7. Старшыня франтавой Беларускай Рады па назначэньню апошняй.

Вышэйменаваная Камісія разьмяшчаецца пры Штабе Фронту, куды ў выпадку патрэбы належыць зьвяртацца ўсім вайсковым чыном і ўстановам. Тэлеграфны адрас Камісіі: Штарум, Беларуская Камісія.

Памочнік Аўгусьцейшага
Галоўнакамандуючага арміямі
Румынскага фронту
Генэрал пяхоты (у арыгінале:"ад інфантэрыі") Шчарбачоў.

### »Загад расейскім войскам Румынскага фронту»

14 студзеня 1918 г. Нр. 1362

Згодна з пастановаю Камітэту Нацыянальна-Абласных Камісараў пры штабе Румынскага фронту, загадваю: 6-ты Таўрогенскі пагранічны конны полк беларусізаваць, дзеля чаго загадам Штабу 6-й арміі сабраць усе, што ёсьць адзьдзелы-эскадроны разам і расквятараваць іх у вёсках Баўгарцы і Табакі.

Прыгаданаму палку ад гэтае даты называцца: "Першым Гусарскім Беларускім Нацыянальным палком".

**Абгрунтаваньне:** Зносіны Старшыні Камітэту Нацыянальна- Абласных Камісараў пры Штабе Галоўнакамандуючага Румынскага фронту за нр. 228 і зносіны Старшыні Беларускай Вайсковай Камісіі для арганізацыі беларускіх вайсковых злучэньняў на Румынскім фроньце за нр. 1.

Памочнік Аўгусьцейшага
Галоўнакамандуючага арміямі
Румынскага фронту,
ген. пяхоты Шчарбачоў.

**»Загад расейскім войскам Румынскага фронту»**

21 студзеня 1918 г. Нр. 1399

Згодна з пастановаю Камітэту Нацыянальна-Абласных Камісараў пры Штабе Румынскага фронту, загадваю:

1. 4-ты Армейскі корпус у складзе 30-й і 40-й пяхотных дывізіяў з артылерыяй, штаб корпусу і ўсе дапаможныя адзінкі і ўстановы, 43-ю дывізію зь ейнай артылерыяй і прыдадзенымі ёй установамі і 26-ты аўтабранявы адзьдзел — беларусізаваць.

2. Усіх афіцэраў і жаўнераў беларусаў, загадамі Штабоў Арміяў перадаць адпаведна: з 4-й і 6-й Арміяў у 4-ты Армейскі Корпус, а з 8-й і 9-й Арміяў у 43-ю пяхотную дывізію.

Усіх-жа чыноў не Беларусаў, якія знаходзяцца ў прыгаданых злучэньнях, у выпадку іхнага жаданьня, выдзеліць і перадаць загадам штабаў 6-й і 9-й Арміяў у іншыя, не нацыяналізаваныя часьці.

**Абгрунтаваньне:** Зносіны старшыні Камітэту Нацыянальна-Абласных Камісараў (КНАК) за нр. нр. 281 і 280.

Памочнік Аўгусьцейшага Галоўнакамандуючага
Арміямі Румынскага Фронту
Ген. пяхоты Шчарбачоў

**Загад расейскім войскам Румынскага фронту**

23 студзеня 1918 г. Нр. 1407

Загадваю 357-ю Віцебскую і 410-ю Менскую дружыны беларусізаваць.

*Заўвага рэд. "Зважай":* Гэтта, відаць, памылка. Мова, пэўнеж, ідзе пра большыя, а не найменшыя вайсковыя адзьдзелы, якімі ёсьць дружыны.

**Абгрунтаваньне:** Зносіны Камісара ў Беларускіх справах Румынскага фронту г.г. за нр. 113.

Памочнік Аўгусьцейшага Галоўнакамандуючага
Арміямі Румынскага Фронту
Ген. пяхоты Шчарбачоў

**»Загад расейскім войскам Румынскага фронту**

2 лютага 1918 г. нр. 1436

У дапаўненьне да загаду Расейскім войскам Румынскага фронту нр. 1309.

**Загадваю:** Цяпер-жа прыступіць да фармаваньня Беларускай Дывізіі з войскаў 4-га Армейскага Корпусу. На ўкамплетаваньне вышэйзгаданай Дывізіі з Румынскага фронту назначыць усіх беларусаў — афіцэраў і жаўнераў, прычым апошніх, пачынаючы з прызыву 1913 году і пазьней. Афіцэры і жаўнеры іншых нацыянальнасьцяў, якія выкажуць ахвоту служыць у Беларускай Дывізіі, падлягаюць залічэньню ў шэрагі прыгаданай Дывізіі.

Парадак фармаваньня Дывізіі будзе дадаткова паказаны асобнымі распараджэньнямі.

Памочнік Аўгусьцейшага Галоўнакамандуючага
Арміямі Румынскага Фронту
Генэрал пяхоты Шчарбачоў

**»Загад Расейскім войскам Румынскага фронту»**

3 лютага 1918 г. Нр. 1442

Насуперак (у С.К. — "наўсызмен") загаду па фронту гэтага году за нр. 1332 падаю да ведама войскам фронту:

Старшыня Беларускай Вайсковай Камісіі ген.-маёр Пажарскі і сакратар Камінскі і паручнік Ленчыолі выбылі, пачынаючы ад 17.1 із складу прыгаданай Камісіі ў сувязі зь пераводам іх на службу ў 7-мы Армейскі Корпус. У склад Беларускай Вайсковай Камісіі з 24.1 г.г. увайшлі: Старшыня Камісіі генэральнага штабу падпалкоўнік Біттэнбіндэр і сябрамі Камісіі — падпалк. Загароўскі і штабскапітан Гартц.

**Спраўка:** Зносіны Беларускага Камісара Румфронту за нр. 20 ад 30 студзеня 1918 г.

Памочнік Аўгусьцейшага Галоўнакамандуючага
Арміямі Румынскага фронту
Ген. пяхоты Шчарбачоў

*Выпіска.* Журнальнае [sic!] пастанаўленьне Рады Міністраў Малдаўскай Рэспублікі, адбытае 5 лютага 1918 г.

*Слухалі:* Даклад: 8) Захады прадстаўніка ген. Шчарбачова аб дазволе на фармаваньне бяз зброі Беларускіх вайсковых злучэньняў у межах Малдаўскай Рэспублікі.

*Пастанавілі:* Урад Малдаўскай Рэспублікі не сустракае прынцыповых перашкодаў на дазвол аб фармаваньні на тэрыторыі Малдаўскай Рэспублікі Беларускіх вайсковых злучэньняў бяз зброі і прапануе тым, што фармуюцца ў пытаньнях харчу зьвязацца з адзьдзелам харчаваньня пры Міністэрстве Ўнутраных Справаў і Міжсаюзнай Харчовай Камісіяй. Месца і падробнасьці фармаваньня павінны быць выпрацаваныя ў згодзе з Вайсковым Міністрам і Румынскім камандаваньнем.

Праўдзіва. За кіраўніка Справамі
Рады Міністраў (подпіс)

**Загад Расейскім войскам Румынскага фронту**

**11 лютага 1918 г. Нр. 1475**

**Для фармаваньня з часьцей войскаў 4-га Армейскага Корпусу Беларускай Пяхотнай Дывізіі, загадваю адразу-ж прыступіць для расфармаваньня Штабу гэтага Корпусу, яго ўпраўленьняў, установаў і майстэрняў і ўсіх злучэньняў, што знаходзяцца пры прыгаданым Корпусе, а таксама 30-ю і 40-ю пяхотныя дывізіі зь іхнымі штабамі, установамі, артылерыяй і прыдаткамі да гэных часьцей.**

**Пры расфармаваньні кіравацца дадзенымі ўжо ў гэтай справе паказаньнямі. Расфармаваньне закончыць да 25.2.1918 г., спыняючы ад гэтае даты выдаваньне ўсякага гатунку надобы.**

**Аб расфармаваньні паведаміць мяне.**

**Спраўка:** Загады Расейскім войскам Румынскага фронту ад 21 студзеня нр. 1399 і ад 2.2. 1918 г. за нр. 1436.

Памочнік Аўгусьцейшага Галоўнакамандуючага
Арміямі Румынскага фронту
Генэрал пяхоты Шчарбачоў

Камэнтуючы гэтыя загады, аўтар "Матар'ялаў" С.К. пісаў: Зь беларускіх і беларусізаваных вайсковых часьцей была ўтвораная вайсковая сіла, якая мела звыш 100 тысяч людзей. Больш палавіны маёмасьці (у аўтара — "маетнасьці") Румынскага фронту перайшло ў распараджэньне Беларускага Камісарыяту. Была думка ўсю гэтую сілу пераправіць на Бацькаўшчыну, аднак праектам гэтым ня суджана было зьдзейсьніцца ("зысьціцца"). Ходам падзеяў Беларуская Армія павінна была адступіць на Румынскую тэрыторыю, дзе яна павінна была раззброіцца. Шматмільённай вартасьці маёмасьць Беларускай Арміі, якая складалася з жывога і мёртвага вайсковага інвэнтару, коней (каля 2 000), грузавых і пасажырскіх аўтамабіляў (каля 800), баявых прыпасаў, адзежных складаў, гарматаў, карабінаў і інш., як кажуць, была здадзеная ў дэпазыт Румынскаму ўраду. У гэтай справе Народны Сакратарыят Б.Н.Р. рабіў захады, каб захаваць для сябе ўсю гэтую маёмасьць. У распараджэньні Рэдакцыі "Крывіча" — пісаў С.К., — маецца ліст, пісаны ў гэтай справе Народным Сакратарыятам Б.Н.Р. да тагачаснага Беларускага Камісара Румынскага фронту П. Манцэвіча, ніжэй пісанага зьместу:

Беларуская Народная Рэспубліка
Народны Сакратарыят
7 красавіка, 1918 г. нр. 175

Беларускаму Камісару Румынскага фронту
П.Д. Манцэвічу

Маёмасьць і зброю раззброеных беларускіх і беларусізаваных вайсковых злучэньняў, што знаходзяцца на былым румынскім фроньце, Народны Сакратарыят Б.Н.Р. мае на мэце выкарыстаць для стварэньня на тэрыторыі Беларусі нацыянальных войскаў, калі ўмовы дазволяць зрабіць гэта (пасьля заканчэньня акупацыі).

На аснове вышэйпададзенага і згодна з пастановаю Народнага Сакратарыяту Беларускай Народнай Рэспублікі ад 3 красавіка гэтага году, даручаецца Вам паведаміць аб гэтым адпаведным органам Румынскага Ўраду, на былым Румынскім фроньце, на той выпадак, каб вышэйазначаная маёмасьць і зброя, былых беларускіх часьцей, ня было перададзена іншым Урадам ці арганізацыям.

Старшыня Народнага Сакратарыяту
Народны Сакратар Зьнешніх Справаў
Варонка
Кіраўнік Справамі Народнага
Сакратарыяту Л. Заяц

С.К. канчае свае "Матэрыялы" гэтымі вось словамі (цытуем у арыгінале):

"Што ў далейшыя часы сталася з гэнай маетнасьцю невядома.

Расфармаваныя войскі ў разброд вярталіся на Бацькаўшчыну, дзе ў тыя часы была нямецкая акупацыя. У самым Менску было зарэгістравана некалькі тысяч вайскоўцаў Беларусаў, якія дабіваліся ад Немцаў пазваленьня прыступіць да фармаваньня рэгулярных вайсковых часьцей. Пазваленьне ня было дадзенае. Частку гэтых вайскоўцаў загарнула з сабою хваля, адступаўшых перад бальшавікам, Немцаў, частка распарушылыся па краю, а частка ўступіла ў рады чырвонай арміі".

## ГОСЬЦЬ ЗЬ ВІЛЬНІ

13-га жніўня, у нядзелю, у залі Беларускага Грамадзка-Рэлігійнага Цэнтру ў Тароньце, пасьля службы Божай, нашы суродзічы віталі гасьця зь Вільні - сп. Хвёдара Нюнька. Ён ёсьць старшынём віленскага Беларускага гуртка "Сябрына", сябрам управы Грамадзкага Таварыства Беларускай Культуры пры Літоўскім Фондзе Культуры, адным з рэдактараў беларускіх радыёперадачаў у Вільні.

На спатканьні, што трывала звыш дзьве гадзіны, сп. Нюнька апавядаў пра тое, як Беларусы ў Вільні й Літоўскай ССР узяліся за адраджэньне свае культуры, бо пасьля апошняй вайны маскоўскія акупанты зьнішчылі ў нашай старажытнай Вільні ўсе беларускія навуковыя, грамадзкія, рэлігійныя, выдавецкія й культурныя ўстановы. Фонды былога Беларускага музэю Луцкевіча знаходзяцца цяпер у запасьніках летувіскага музэю й Беларусы намагаюцца, каб тое, што Летувісы не пакралі, вярнуць сабе. Сяньня Беларусы, якія былі некалі гаспадарамі старажытнае свае сталіцы, ня маюць да свае грамадзкае ці культурнае патрэбы аніводнага будынку, — больш таго — нейкай прызваітай залі. Праўда, Летувісы, дзе могуць, стараюцца памагаць Беларусам.

Галоўна дзякуючы помачы летувіскай арганізацыі "Саюдзіс" сёлета ў днях 24-25 чырвеня ў Вільні адбыўся Ўстаноўчы Зьезд Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне. Гэткі зьезд ня мог адбыцца ў Менску, бо мясцовыя маскоўскія цівуны- сталіністы не дазволілі карыстацца беларускай нацыянальнай сымболікай — бел-чырвона-белым сьцягам і пагоняй, — дый наагул яны вядуць гнюснае змаганьне з БНФ "Адраджэньне".

Міма таго, што ў Вільні й Літ. ССР жыве звыш 66 тыс. Беларусаў, яны да гэтага часу ня маюць ніводнае школы. Вельмі актыўна працуюць Палякі, што галоўным чынам абапіраюцца на нясьведамых Беларусах каталікох. Тымчасам Беларускі клюб "Сябрына" ня мае нават собскае бібліятэкі. Кнігі сякія-такія ўжо назьбіралі, але няма памешканьня свайго, а зьбіраюцца нашы суродзічы ў аддадзеныя ім часы ў залі летувіскага прафсаюзу.

Сп. Нюнька, якому 61 год, працуе ў сваёй тэхнічнай прафэсіі (каштарысы пры будоўлях). Нам, якія некалі вучыліся ці маем сваё карэньне ў Вільні, наш мілы госьць здаўся даўно жаданым пасланцом із калішняга сэрца Вялікай Літвы. Ён прывёз да нас цікавыя весткі, — хоць і слаба, але беларускае сэрца Вільні ўжо мае свой энэргічны рытм, беларускі арганізм, ня гледзячы амаль на паўстагодні , спрычынены заядлым ворагам Беларусі летарг, ажывае. Госьць выразіў сваё вялікае задаваленьне й тым, што нашы эмігранты суродзічы зрабілі для Бацькаўшчыны й для папулярызацыі беларускае культуры на эміграцыі.

Прысутныя сабралі між сабою на помач Беларускаму Народнаму Фронту "Адраджэньне" 650 даляраў, пажадалі госьцю добрага здароўя й перадалі свае прывітаньне ды пажаданьне посьпехаў у нацыянальна-адраджэнскай працы суродзічам у Вільні й на Бацькаўшчыне. Госьць перадаў Архіяпіскапу Мікалаю жменьку зямлі зь менскіх Курапатаў. Спатканьне закончылі адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

.......................................................................................

Камэнтары, як кажуць, непатрэбныя. Аднак пра гэты эпізод беларускае нацыянальнае вайсковае гісторыі нельга ніколі забывацца. Ён вельмі павучальны і зноў можа паўтарыцца. Для больш поўнага азнаямленьня зь гісторыяй узброеных сілаў Беларускай Народнай Рэспублікі адсылаем нашых чытачоў да артыкулаў "Беларуская Вайсковая Цэнтральная Рада", якія былі надрукаваныя адпаведна ў нр.нр. 3(31), 4(32), 2(34) і 3(35) ды 2(38) і 4(40) нашага часапісу "Зважай", а таксама да артыкулу "Да пытаньня нацыянальнай ваеннай гісторыі Беларусі", што быў зьмешчаны ў нр.нр. 2(30) і 3(31) "Зважай".

*В. Сянькевіч*

## НА ЗАБРАНАЙ ЗЯМЛІ

# І ГІНУЦЬ ПЕРАПЁЛКІ, КАЧКІ І... ПЧОЛКІ

### Верх бяруць ядахімікаты і рак!

Там, дзе грыміць галоснасьці вэрхал пра перабудову, дзе, згодна Янкі Купалы (цытуем з памяці)

*дзе кінеш вокам — шэльмы, шэльмы!*
*І так заядла б'юцца ў грудзі,*
*што, значыць, правільныя вельмі,*

там рознымі ядахімікатамі, нітратамі й іншымі "мінералкамі" безаглядна нішчыцца самая прырода-матка зямля...

Нам з гэнага вэрхалу ўдалося выцягнуць некалькі дэталяў, якія сьветчаць да чаго дагаспадарыліся тыя нікчэмнікі, што найперш замардавалі, або запрэглі ў калгасны прыгон руплівых беларускіх сялянаў, пасьля-ж даганялі й пераганялі Амэрыку, гэтак стараючыся пхнуць усіх ва ўяўленую антычалавечымі мярзотнікамі "сьветлую будучыню". І да чаго паразіты-дармаеды давялі зямлю й прыроду... У часопісе "Беларусь", нр. 5, 1989 г. чытаем:

"...Простыя людзі штодзень ужываюць яд разам з харчамі, ня кажучы ўжо, што й дыхаюць атручаным паветрам. З пашырэньнем галоснасьці пра гэта пачалі гаварыць у поўны голас. Адбыліся нарады, дзе прынялі ўдзел партыйныя і ўрадавыя кіраўнікі рэспублікі пры "круглым стале" ў Саюзе пісьменьнікаў БССР.

На нарадах, у прэсе адзначалася: пакуль што з чалавекам з-за ядахімікатаў надзвычайнага здарэньня не адбылося, паднімаць панікі ня варта. Затое вастрыню становішча, у якое трапілі "браты нашы меншыя", дзікая прырода, ніякім аптымістам аказалася не пад сілу прытупіць. Выкрэсьлена са сьпісу жыхароў нашай рэспублікі 15 назваў жывёльнага сьвету. Поўнасьцю сьцёртыя з твару зямлі 50 прадстаўнікоў нашай багатай, непаўторнай флёры.

Дамоклаў меч занесены над тымі, хто ўцалеў. На грані поўнага вынішчэньня ў рэспубліцы апынулася каля 70 відаў жывёл і сярод іх жывая душа жытнёвага поля, апетая ў народных песьнях, — галасістая перапёлка, чароўная прыгажуня, пастаянная жыхарка ўсіх вазёраў і рэкаў — дзікая качка, шэры "вушасьцік", удзельнік самых вясёлых паляўнічых здарэньняў і дзіцячых прыгодаў заяц-русак і многія іншыя. Тая-ж самая пагроза навісла над занесенымі ў Чырвоную кнігу 85 відамі расьлінаў."

Чаму гіне ў вазёрах рыба? "Суседнія гаспадаркі рассыпаюць мінэральныя ўгнаеньні на палёх, дажджы іх змываюць у рэкі й вадасховішчы, такім чынам берагі пакрываюцца залатымі, казачнымі рыбкамі. Ні для кога не сакрэт, чым выклікана абвастрэньне праблемаў пчалярства: крылатыя апыляльнікі кветак, чыя працавітасьць стала ўзорам для чалавека, не прыстасаваліся да ўжываных ядахімікатаў, якімі апыляюць пасевы сучасныя надта руплівыя гаспадары.

Сыстэма кантролю прадуктаў створаная, але-ж яна ня дзейнічае. Згодна дадзеных спэцыялістаў (зноў-жа зь іншых краінаў), існуе простая сувязь паміж колькасьцю нітратаў у глебе, а таксама ў вадзе і сьмяротнасьцю людзей ад ракавых хваробаў. Нашы анколягі на сваёй апошняй усесаюзнай нарадзе прызналі (адзінае аўтарытэтнае прызнаньне!): шкоднага ўзьдзеяньня мінэральных угнаеньняў на здароўе людзей ніхто зь іх ня вывучаў. Дзіўна толькі, чаму служба аховы здароўя заставалася бязуважнай да адной з асноўных прычынаў страшнае хваробы.

...Вось у якім становішчы апынуліся людзі ў шэрагу раёнаў. Хлеб і вада даюць ім не здароўе й сілу, як было здаўна, а хваробы й немач..."

## *А ЛІК ДАРМАЕДАЎ РАСЬЦЕ*

Калі чуеш партыйную балбатню, дык і мяркуеш: а чорт вас ведае, можа што й паправілася ў калгасным прыгоне, які як вядома, прынёс суцэльную сельскагаспадарчую катастрофу... Ажно не. Бо як можа паправіцца, калі лік дармаедаў, што прадукуюць горы паперы із бяглуздымі загадамі, усьцяж павялічваецца?

Якраз пра гэта даведваемся з артыкулу "Навука бяз дыктату" ("Полымя", нр. 4):

"Доўгі гады ўпраўленчая структура сельскай гаспадаркі ішла па шляху ўзмацненьня цэнтралізацыі. Зразумела, гэта вяло ў тупік. Таму ня так даўно была праведзеная рэарганізацыя й створаная новая "супэрфірма" — Дзяржаграпром з аналягічнай упраўленчай структурай на месцах. Аднак новы апарат ня толькі не скараціўся, але намнога вырас. Толькі ў Беларусі на першапачатковай стадыі пасьля аб'яднаньня многіх міністэрстваў і ведамстваў у "супэрфірме" налічвалася каля тысячы чалавек. Намнога ўзмацнілася тут канцэнтрацыя ўлады і бюракратычны мэханізм.

Са стварэньнем Дзяржаграпрому амаль зьніклі й тыя нязначныя свабоды й правы, якія мелі раней калгасы й саўгасы. Так, да старой сыстэмы справаздачы, якую ніхто не зьмяніў, дабавіліся новыя яе віды. Кіраўнікі гаспадарак адразу адчулі, што паток пісьмаў, званкоў і тэлеграмаў з патрабаваньнем новых зьвестак павялічыўся.

Дзейнасьць калгасаў і саўгасаў стала цалкам падкантрольнай вышэйшым органам — ад плянаваньня вытворчасьці да рэалізацыі прадукцыі. Манапольная ўлада гаспадарчых ворганаў прывяла да таго, што бязь ведама, скажам, раённых аграпрамысловых аб'яднаньняў яны ня маюць права зьмяняць структуры пасяўных плошчаў і гуртаў жывёлы, самастойна рэалізаваць прадукцыю, прадаваць сьвіней і бычкоў "нестандартнымі" кандыцыямі, атрымаць крэдыт, купіць неабходныя матар'ялы й пабудаваць вытворчыя памяшканьні...

...штодзень можна знайсьці новае ўказаньне зьверху аб тэрмінах пасеву й догляду культур, пастаноўцы тэхнікі на захоўваньне й тэрмінах яе рамонту, продажы прадукцыі й выдзеленых рэсурсах... Узяць, напрыклад, адно з апошніх указаньняў па ўкараненьні арэнды, якое зьяўляецца абавязковым і ўсеагульным. Непадпарадкаваньне, нелітаральнае выкананьне ўказаньня, бязумоўна, пагражае аргвывадамі. Вось і даводзіцца сяму-таму рабіць папяровыя справаздачы. Так, напрыклад, сапраўдных арэндных калектываў у рэспубліцы адзінкі, а па справаздачах Дзяржаграпрому — амаль палова брыгадаў і адзьдзяленьняў калгасаў і саўгасаў працуе пановаму.

Дзяржаграпрому, як і раней, належыць неабмежаваная ўлада, ён умешваецца ва ўсе гаспадарчыя справы калгасаў, саўгасаў, інстытутаў...

## »ЧОРНЫЯ ДУШЫ...»

У нр. 4-м сёлетняга "Полымя", п. заг. "Ім сьняцца ў небе журавы" Якаў Паўлаў апісвае свае гутаркі з "гэраічнымі" савецкімі "ўрачамі" й мэдсёстрамі, што працавалі падчас вайны ў Афганістане. Апроч прапагандовага хламу, сям-там можна знайсьці й цікавую макулінку праўды. Вось апавядае Людміла Казіміраўна Сойкава, цяпер загадчыца кардыялягічнага адзьдзелу менскага 4-га клінічнага шпіталю:

"Часам можна пачуць, што ўрачы (пабеларуску — лекары, — К.А.) могуць да ўсяго прывыкнуць, — дзялілася сваімі думкамі мая субяседніца. — Ня верце гэтаму. Цяжка нават зразумець, як мы вынесьлі ўсе пакуты, чаго каштавала нам лячэньне пакалечаных людзей, асабліва дзяцей. Гледзячы на іх, так і хацелася закрычаць на ўвесь белы сьвет: "Людзі! Штож вы робіце? На такое-ж нават зьвяры няздольныя. А колькі намаганьняў даводзілася прыкладаць, каб не зараўці пры дзецях. Іх усьмешкі, вочы нельга забыць да гэтага часу. Колькі ў тых вачох было пакуты, болю, неразуменьня: за што? Колькі навечна застылых сьлёз...

Цяпер у Афганістане шмат дзяцей бяз рук і бяз ног. Хтосьці на гарадзкой вуліцы ці ў кішлаку падняў хітра зробленую сьмяртэльна завадную цацку, нехта ўзяў аўтаручку, пачку цыгарэт, а то й проста акуратна загорнутую кніжку-міну. Толькі вырадкі могуць рабіць такую зброю. Бо, робячы гэтыя "цацкі", яны загадзя прадбачаць вынікі дзеяньня зброі, ведаючы, што дарослы пройдзе міма, а дзіця — ніколі. Якія чорныя душы трэба мець, каб на фабрыках рабіць такія "цацкі..."

Ані спачувальнай Людміле ці іншым мэдсёстрам ды лекарам не хапіла сьмеласьці назваць тыя фабрыкі, дзе нарабілі міліёны гэтых забойчых для дзяцей "цацак", якія скідвалі савецкія самалёты й верталёты. І ўжо пагатоў нельга было назваць галоўных забойцаў, тыя "чорныя душы", што загадалі ўварвацца ў Афганістан, каб і "цацкамі" й сотнямі Хатыняў вымардаваць міліёны людзей...

## *ПРА НАШУ ПАНЯВОЛЕНУЮ БАЦЬКАЎШЧЫНУ НЕ ЗАБЫВАЮЦЦА*

Вольная прэса ў дэмакратычных краінах часта цяпер піша пра "галосьніка" й "перабудоўніка" Гарбачова. Гэта нармальна. Гэтак і таронцкая штодзённая газэта "Таронта Сан", у перадавіцы п.заг. "Добрага шчасьця, Горбы", (25.7. 1989 г.) жадае савецкаму лідару посьпехаў у перабудове і запраўднай а не бальшавіцкай дэмакратызацыі. Нас, беларускіх Канадыйцаў цікавіць яшчэ й тое, што таронцкая газэта, як у гэтай перадавіцы, так і ў бальшыні іншых заўсёды амаль згадвае ў ліку захопленых Маскоўшчынай народаў і Беларусь. А гэта ўжо вынік нашай беларускай "галоснасьці" пра лёс паняволенага народу на амэрыканскім кантынэнце і адным зь яго цэнтраў — Тароньце.

The Toronto Sun, Tuesday July 25, 1989




**Toronto's Other Voice**

PAUL V. GODFREY, Publisher
JIM TIGHE, General Manager
JOHN DOWNING, Editor
LESTER PYETTE, Executive Editor
MIKE STROBEL, Managing Editor

Proprietor - The Toronto Sun Publishing Corporation
333 King St. E. Toronto M5A 3X5 947-2222



Audit Bureau of Circulations Member

ED MONTEITH, Editorial Director — PETER BREWSTER, Assistant to Executive Editor

J. DOUGLAS CREIGHTON, President — BRUCE L. JACKSON, Vice President, Finance

# Good luck, Gorby

**Mikhail Gorbachev is having his own long, hot summer as generations of oppressed and repressed test the waters of reform.**

**The Baltic states are openly protesting Soviet annexation. Moldavians, Ukrainians and Byelorussians are flexing nationalist muscles.**

**There's ethnic violence in the Transcaucasus and Central Asian Soviet republics and strikes — something that hasn't happened since the 1920s -- in the coal mines.**

## *МІКОЛУ ГАНЬКО — 65*

Сёлета 23-га травеня Міколу Ганько споўнілася 65 гадоў. Прынамсі дзьве трэція свайго веку ён пражыў у Канадзе, адразу ўзяўшыся за працу на беларускім царкоўным і грамадзкім полі. Ён доўгія гады зьяўляецца старшынём мясцовага сэктару Рады БНР, нававыбраным сёлета ў канцы травеня старшынём Згуртаваньня Беларусаў Канады, кажную нядзелю вядзе й сьпявае ў царкоўным хоры, дый бярэ ўдзел у іншых галінах беларускага эміграцыйнага жыцьця. М. Ганько — чалавек вялікае ахвярнасьці, беларускага патрыятызму, веры ў Бога. Ён-жа даўно ўжо зьяўляецца сябрам Рады Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

Дай, Божа, Табе, Мікола, добрага здароўя й даўгіх плённых гадоў працы для дабра нашае БАПЦ, ЗБК, наагул беларускае эміграцыі й беларускага народу.

*"Зважай"*

## ? ? ?

Пра падарожжа нашых дзяўчат і хлапцоў зь нюёркскага "Васілька" ў Беласточчыну шырэй даведаецеся з прэсы. Ды пра адно нам карціць сказаць: мясцовыя палякі аздаблялі дзьверы гатэлю й іншыя платы англамоўнай прымітыўнай лаянкай ангэлійскай мовай. Народ "пабрацімаў" дзіву дзівіўся: аказваецца, што Беларусы маюць выдатных людзей у Амэрыцы, што прыехалі забаўляць мясцовых "кацапаў", а іншыя "кацапы" зь Менску й зь Беларусі прыехалі іх вітаць.

Была, значыцца інвазія "кацапаў" і тут сам ксёндз пробашч ня мог вытлумачыць адкуль тое насланьнё...

Piorunie!

## *ДЗЕНЬ ПАМІНКАЎ*

Пасьля колькігадовага перапынку, сёлета Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў узяло ўдзел у парадзе на амэрыканскі Memorial Day. Перад пачаткам парады, куды нашы ваенныя вэтэраны зьявіліся на запросіны Амэрыканскага Згуртаваньня Вэтэранаў Рарытанскай нізіны, давялося гутарыць зь іншымі ўдзельнікамі парады, згадваць мінулае. Тыя аказаліся вэтэранамі карэйскае вайны.

Парада адбылася 28-га травеня, пачалася а 2-й гадзіне папаўдні маршам галоўнымі вуліцамі гораду Ню Брансвік, Гайленд Парк. Сьцяжныя варты розных вэтэранскіх адзьдзелаў спыніліся пры вэтэранскім помніку ў Гайленд Парку, дзе каталіцкі сьвятар блаславіў сьцягі й адслужыў кароткі палявы малебен. У казані ён зазначыў, што мы аддаём пашану усім паўшым у змаганьнях за свабоду ўва ўсіх войнах, пасьля чаго ўсе прысутныя вэтэранскія сьцягі пахіліліся ў пашане памяці перад помнікам вэтэранам. Сёлета сьцяг нашых Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў атрымаў ужо адзінаццатую ўзнагародную істужку. *С. Пчала*



*Беларускія вэтэраны ў маршы* — *Здымка А. Дубяга*



*Маёр С. Гутырчык адкрывае Сымпозіюм Дня 45-х угодкаў мабілізацыі ў Беларускую Краёвую Абарону. За сталом зьлева направа: др. Я. Запруднік, маёр С. Гутырчык, старшыня Галоўнае Ўправы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня мгр. А. Шукелойць.*

*Здымка: А. Дубяга*

## 45-я ЎГОДКІ БЕЛАРУСКАЕ КРАЁВАЕ АБАРОНЫ

У нядзелю 14-га травеня сёлета Згуртаваньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў адзначала 45-я ўгодкі мабілізацыі ў Беларукскую Краёвую Абарону. Сход адкрыў а гадз. 1-й папаўдні ў царкоўнай залі парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленед Парку камандзер ЗБАВ С. Гутырчык. Пасьля салюту да сьцягу, малітву сказаў прат. В. Андраюк. Старшыня ЗБАВ прывітаў прысутных, расказаў пра мэту сьвяткаваньня ды запрасіў старшыню БАЗА А. Шукелойця й рэдактара "Беларуса" Я. Запрудніка ў прэзыдыюм.

Із успамінамі выступаў Васіль Стома, а пасьля яго — старшыня БАЗА сп. А Шукелойць, згодна якога, у БКА налічвалася звыш 50 батальёнаў змабілізаваных і ахвотнікаў ды афіцэрская школа ў Менску. Найлепш былі ўзброеныя 13-ты ды Чыгуначны батальёны, а іншыя былі лёгка ўзброеныя.

Старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, др. В. Кіпель прыраўнаў гісторыю стварэньня беларускіх вайсковых адзьдзелаў у часе існаваньня Беларускае Народнае Рэспублікі ў 1918-20-х гадох і арганізацыі Беларускае Краёвае Абароны ў 1944-м годзе. Із цікавымі гутаркамі — галоўна ўспамінамі — выступалі яшчэ наступныя: рэдактар бюлетэню "Весткі й Паведамленьні Белар. Амэр. Задзіночаньня" сп. А. Міцкевіч, Пётра Кажура й М. Абрамчык. А Пятро Звонны прыгадаў, як на просьбу беларускіх афіцэраў ён пісаў песьні для новастворанае арміі. І гэта на ягоныя ноты гучэў найбольш ведамы марш БКА "Ідуць жаўнеры Беларусы", апошнія словы якога абвяшчалі, што "жаўнер Краёвай Абароны на варце стаў правоў тваіх".

Рэдактар "Беларуса", у заключнай прамове, падчыркнуў, што Беларусы, ня гледзячы на нянавісьнеую вайну, насамперш намагаліся адбудаваць сваю незалежную царкву — БАПЦ, школьніцтва, ды, каб не гаспадарыў больш над намі люты вораг, арганізавалі армію. Гэта ёсьць нармальная зьява ў кажным дасьпелым народзе. Сымпозіюм пра БКА ня ёсьць яшчэ закончаны, гутаркі трэба прадаўжаць, запрашаючы іншых удзельнікаў. Сход закончыўся адсьпяваньнем нацыянальнага гімну.

Алега Дубягу віталі з нагоды 61-х угодкаў нараджэньня. Алег зьяўляецца вэтэранам карэйскае вайны, сябрам ЗБАВ і бальшыня фатаздымак, якія зьмяшчаў "Зважай", гэта ягоная работа. Дык віншуем яго й жадаем сто год!

*Сяргей Пчала*

## ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

Ад 1959 году прэзыдэнт Злучаных Штатаў, каб ушанаваць вытрываласьць, веру й імкненьні народаў, што ў камуністычным ярме, абвяшчаў трэці тыдзень ліпеня Тыднем Паняволеных Народаў. Сёлета такі тыдзень быў абвешчаны на 16-21 ліпеня. У сваёй праклямацыі амэрыканскі прэзыдэнт Джордж Буш, між іншага, сказаў: "Хоць і бачым нейкія праменьні сьвятла ўва Ўсходняй Эўропе, мусім сьцьвердзіць што брутальная рэпрэсія прадаўжаецца ў іншых часьцях рэгёну, уключаючы глум над этнічнымі й рэлігійнымі меншасьцямі."

У Ню Ёрку адбылася парада, у якой узялі ўдзел шматлікія нацыянальнасьці, бацькаўшчыны якіх церпяць у камуністычным ярме. Ад Беларусаў удзел бралі Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Беларускі Кангрэсавы Камітэт і Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў.

Пачалі зьбірацца а гадз. 9-й раніцай на 59-й вуліцы і 5-й, адкуль калёны маршам накіраваліся на жалобную Божую Службу ў катэдру Сьв. Патрыка ў Мангатане. На ступеньках катэдры сабралася маса розных нацыянальных сьцягоў і ўдзельнікаў дэманстрацыі для сустрэчы з рэпарцёрамі тэлевізійных станцыяў. Мелі зь імі гутарку й Беларусы. Пасьля Божае Службы ды пасьвячаньня сьцягоў, групы арганізацыяў па пятай авэню накіраваліся ў Цантральны парк. Трэба сказаць, што сёлета беларуская група рэпрэзантавалася вельмі добра.

У Цантральным парку цырымонію пачалі амэрыканскім гімнам і "Прысягай на вернасьць" ды малітвай. У прамовах выступалі прадстаўнікі гораду Ню Ёрку й вядучыя дзеячы з Камітэту Паняволеных Народаў. З бойкай прамовай выступіў быўшы кангрэсман і адначасна Галоўны Камандзер Вэтэранаў Амэрыкі (гэта высокае становішча ў вэтэранаў). Ён згадаў нядаўныя забойствы тысячаў студэнтаў на плошчы ў Бэйджынгу ў Кітаі ды сказаў, што з камуністычнай тыраніяй трэба змагацца ўсюды дзе яна існуе. Адно шкада, што ня ўспомніў Курапатаў пад Менскам, дзе бальшавіцкія забойцы вымардавалі куды больш нявінных Беларусаў. *С. Пчала*




*Беларускія ўдзельнікі ў маршы на вуліцах Ню Ёрку.*

Здымка Я.Запрудніка.

## ФОНД "ЗВАЖАЙ"

Ад 20-га травеня да 20-жніўня сёлета на ""Зважай" ахвяравалі: С.Гутырчык (з продажы) — 64.80 дал., а. Міцкевіч — 5.90, Я. Запруднік — 23.60, А. Стрэчынь — 29.65, А. Зданкавіч — 36.50, Я. Сяўковіч — 36.50, А. М. — 10.00, Я. Баран — 5.00, Э. Пітушка — 5.00, К. Акула (з продажы) — 12.00.

*Разам — 228 дал. 95 ц. Усім вельмі дзякуем. Як раней ужо было павядомлена, усе фонды прысылаць, выпісваючы чэкі на прозьвішча рэдактара, бо асобнае конта для часапісу ў банку прыносіць нам лішнія клопаты й страты.*